Год II. Лістапад 1933 г. №11 (23).

# ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!



Ты еси Петръ,
и на семъ камени созижду церковь мою. Мат. ѕі. иі.

## БЕЛАРУСКАЯ РЭЛІГІЙНАЯ ЧАСОПІСЬ.

АЛЬБЭРТЫН

Выдавецтва Таварыства Ісусавага.

ЗЬМЕСТ:



# „Да Злучэньня!"

**Месячная беларуская рэлігійная часопісь.**

Цана асобнага нумару 20 гр.

Падпіска на паўгода. . . . . 1 зл.

„ год . . . . . 2. „

Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі:

Albertyn k/Słonima O. O. Jezuici.

Адрэс Адміністрацыі:

Wilno, ul. Wielka 58.

Друкуецца з пазваленьня духоўнай улады.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 1.

# ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!

Беларуская рэлігійная часопіс.

Альбэртын. Лістапад 1933 г. № 11 (23).

## Сьвята Увядзеньня ў храм Найсьвяцейшай Дзевы Марыі.

*(21 лістапада)*

*ЭВАНГЕЛЬЛЕ ПАВОДЛЕ СЬВ. ЛУКІ*
*РАЗЬДЗЕЛ 10, 38—42. ЗАЧАЛА 54.*

*38. Таго часу ўвайшоў Ісус у адно сяло: а адна*
*жанчына, на імя Марта, прыняла Яго ў свой дом.*
*39. І была ў яе сястра, на імя Марыя, като-*
*рая, сеўшы ля ног Ісусавых, слухала ягонага слова.*
*40. А Марта клапацілася аб рознай прыслузе*
*і, стаўшы, сказала: Госпадзе! ці ж Ты ня дбаеш,*
*што мая сястра мяне адну пакінула служыці? Дык*
*скажы ёй, каб мне памагла!*
*41. А Ісус адказаў ёй: Марта, Марта! тур-*
*буешся і клапоцішся аб многім,*
*42. Але патрэбна адно. А Марта выбрала леп-*
*шую частку, каторая не аднімецца ад яе.*

*РАЗЬДЗЕЛ 11, 27—28. ЗАЧАЛА 58*

*27. І сталася, як Ён гэта гаварыў, адна жан-*
*чына, узвышаючы голас з народу, сказала Яму: —*
*Багаслаўлена ёсьць лона, што Цябе насіла і грудзі,*
*што кармілі Цябе!*
*28 А Ён сказаў: —І тым больш багаслаўлены*
*тыя, што слухаюць Божае слова і выпаўняюць яго.*

---

Вельмі сумнае было жыцьцё багабойных Якіма і Анны, бо ўжо пастарэлі, а дзяцей не маглі дачакацца. У цяперашнія часы ня лічыцца ганьбай для пажаніўшыхся ня мець

дзяцей, нават бывае што сумысьля стараюцца, каб ня было іх. У жыдоў зусім інакш было: бязьдзетнасьць лічылася карай Божай і ганьбай перад людзьмі.

Вельмі набожная жанчына Анна праз доўгія гады сужыцьця з сваім мужам Якімам ня мела дзяцей. Прасіла Госпада Бога, каб зьняў з яе гэтую ганьбу. Ужо і старасьць надышла, аднак сьвятая жанчына не пераставала маліцца, мела бязупынную надзею, што Госпад Бог яе выслухае. І не ашукалася: у старасьці сваёй радзіла дачку, імя якой было Марыя.

Каб упрасіць у Госпада Бога жаданае дзіця, багабойная пара прысягала Богу ахвяраваць народжанае дзіця на службу Богу.

Гэту сваю прысягу сьвятыя Якім і Анна, не адкладаючы, выпаўнілі: як толькі скончыла Марыя 3 гады, дык бацькі ўвялі яе ў сьвятыню Ерузалімскую і ахвяравалі Госпаду Богу.

Якім і Анна добра ведалі, што пры храме Божым найлепей узгадуецца іх дзіця, найлепей патрапіць служыць Богу.

У сьвятыні зьбіраюцца людзі маліцца, а супольная малітва мае большае значэньне перад Богам: „**Дзе двох або трох зьбяруцца дзеля імя майго, там і я паміж імі буду**“,— казаў Ісус Хрыстос.

Ерузалімская сьвятыня была вялікаю сьвятасьцю для выбранага Богам народу. Там перахоўвалася найбольшая сьвятасьць — арка тэстамэнту, у сьвятыні Ерузалімскай слухаў народ праўдзівае навукі аб Богу, там меў прыйсьці абяцаны Мэсія — Збаўца сьвету.

Далёка большае значэньне, без параўнаньня большую вартасьць мае сьвятыня хрысьціянская: у ёй ня толькі людзі маюць магчымасьць слухаць навукі Божае, але нават маюць самога Бога прысутнага пад відам хлеба і віна ў Сьвятых Дарох.

Дык калі Ерузалімская сьвятыня мела вялікі ўзгадаваўчы ўплыў на чалавека, то тым больш ўплыў мае храм хрысьціянскі.

Багабойныя Якім і Анна, дбаючы аб найлепшым выгадаваньні свае адзінае любае дачкі, аддалі яе ў сьвятыню. Выгадаваўся дух Прасьвятое Дзевы Марыі на малітве ды навуцы права Божага пры храме Божым.

Вось прыклад для ўсіх бацькоў, як трэба выгадоўваць дзяцей.

Хай дзіця прывучаецца змалку хадзіць у царкву. Хай прывыкае да выпаўненьня абавязкаў хрысьціяніна. Служба Божая ў царкве мае вялікі ўплыў на ўзгадаваньне чалавека.

Асабліва вялікую духоўную карысьць, страву для свае душы чэрпаюць практыкуючыя хрысьціяне з навукі, якая ім даецца сьвяшчэньнікам у пропаведзі.

Карысна для чалавека шмат ведаць, быць вучоным, але

куды больш будзе для яго карысным, калі зробіцца лепшым, больш рэлігійным ды справядлівым. Госпад Бог ня спытаецца нас на судзе, што знаеш, якую маеш веду, ці ўмееш чытаць ды пісаць, але што рабіў, якое тваё жыцьцё было адносна да Бога, людзей і самога сябе, ці выпаўніў свае абавязкі?

Вось аб гэтых нашых абавязках вучыць нас сьвятая царква Хрыстова, ня толькі вучыць, але і памагае нам, узмацоўваючы нашыя сілы духоўныя праз сьвятыя таінствы.

Хто-ж з бацькоў не жадаў-бы выгадаваць сваё дзіця на добрага, рэлігійнага чалавека, каб мець на старасьць падпору і пацеху? Вось гэта ўсё дасьць вашым дзецям рэлігійнае ўзгадаваньне праз сьвятую царкву.

Дзякаваць Богу, агульна бяручы адносна да рэлігійнага ўзгадоўваньня цяпер што раз дык лепей у Польшчы, кіраўнікі школ і вучыцялі маюць абавязак рупіцца аб тым, каб усе дзеці ў нядзелю ды сьвяты былі прысутнымі на сьвятой Літургіі, каб некалькі разоў у год спавядаліся і прынялі Сьвятое Прычасьце. Гэтая пастанова ўраду па гарадох наагул, можна сказаць, праводзіцца. Па вёсках нажаль горай з гэтым гэтак важным абавязкам: дзеці ня прыходзяць да царквы ў нядзелю на сьв. Літургію (калі няма ў самой вёсцы царквы), бо далёка і няма чаго-нібудзь цёплага зімой апрануць. Найважнейшаю прычынаю, чаму дзеці ня прыходзяць да царквы, ёсьць тая, што бацькі самыя не пачуваюцца да абавязку пайсьці на сьв. Літургію і дзяцей не пасылаць. Дзеля гэтага няма чаго дзівіцца, што па нашых вёсках пашыраецца бязбожжа, камунізм ды неморальнасьць. Няма пашаны для старшых у маладым пакаленьні, а бацькі, замест пацехі ды падмогі ад сваіх родных дзяцей, маюць зьнявагу, прыкрасьць ды атручаньне жыцьця пад старасьць. Замест падмогі — большы цяжар, замест пацехі — крыўда ды сьлёзы, замест пашаны і паслухнянасьці — абраза ды бунт, замест удзячнасьці — чорная няўдзячнасьць, замест спакойнага жыцьця ў сваёй хаце — дзеці і ўнукі выкідаюць старых з хаты, як непатрэбную рэч.

Мае дарагія, айцы і маткі, будучыня ваша ды вашых дзяцей у вашых руках: якімі сваіх дзяцей узгадуеце, такімі і будзеце мець. Хай прыклад богаацец Якіма і Анны, ды ваша ўласная і дзяцей вашых карысьць заахвоціць вас да высыланьня дзяцей да царквы ў нядзелі і сьвяты. Царква ня зробіць дзяцей вашых горшымі, наадварот навучыць іх, якія маюць абавязкі адносна да Бога і людзей, а асабліва адносна да сваіх бацькоў. Калі дасьцё вашым дзеткам рэлігійнае выхаваньне, дык будзеце мець пацеху ў гэтым жыцьці ды будзеце цешыцца з імі шчасьцем вечным па сьмерці. Амін.

*а. Антоні.*

# Пачатак грэцкага расколу.

Першапачаткавай прычынаю паўстаньня расколу быў імпэратар Канстантын Вялікі, які наступнікам сваім падаў згубны прыклад умешваньня сьвецкае ўлады ў царкоўныя справы, хоць, праўду кажучы, у сваім жыцьці ён не зрабіў вострых памылак, часткова таму, што выдзяляўся стрымлівасьцю, часткова таму, што быў пад уплывам міралюбнага сьв. Аляксандра. Але ўжо насьледнікі Канстантына, Канстанцы і Валеры, падыктатарску распараджаліся ў царкве і паклалі пачатак таму глыбока-сумнаму і згубнаму для царквы зьявішчу, якое па справядлівасьці азначаюць словам: цэзарапапізм. Да гэтага далучылася яшчэ жаданьне іздаць асаблівае значэньне і бліскучасьць новай сталіцы імпэрыі — Канстантынопалю, — а разам з гэтым і яе япіскапу, узвысіўшы яго над усімі іншымі япіскапамі.

Пры догматычных спрэчках ня столькі мелі на ўвазе царкоўную навуку, колькі пастанову імпэратарскае ўлады. З пэўнасьцю можна цьвярдзіць, што ня было-б гэтак вялікіх лікам сабораў, каб ініцыятыва склікваньня іх не паходзіла ад візантыйскага пасаду. Гэтым духам праймаліся нажаль, не здаючы сабе справы, найлепшыя прадстаўнікі духавенства, паміж іншым і канстантынопальскія япіскапы, думаўшыя, што да іх належыць права кіраваньня царкоўнымі справамі ўва ўсім хрысьціянскім сьвеце. Канстантынопаль дасягнуў нарэшце гэгэмоніі, якая зрадзіла процi яго ненавісьць з боку іншых патрыяршых сталіцаў.

І вось за цану царкоўнага міру, а праз гэта аслабленьнем жыцьцёвых асноваў хрысьціянства на ўсім усходзе ўзвысіўся Канстантынопаль да ступені другога Рыму. А царкоўная ўлада гэтага новазьяўленага Рыму прымушана была датарнавацца да палітычных зьменаў сталіцы. Гэтая візантыйская ідэя, у аснове сваёй няверная і фальшывая, крыла ў сабе і жалю вартыя пасьледзтвы: яна стварыла спагадныя варункі для расколу ў будучыні. Спачатку Канстантынопаль верхаводзіў і нават панаваў над іншымі цэрквамі Ўсходу, а затым, у далейшым, крута высунуў наверх тэндэнцыю не прызнаваць пяршынства і ўлады Рымскага Япіскапа.

Вось чаму пáпы, а асабліва сьв. Лявон Вялікі, паважаны і прызнаны сьвятым і ўсходняю (праваслаўнаю) царквою, былі процi аднаго з правілаў Халкідонскага сабору, уложанага за 70 гадоў да Халкідонскага на Канстантынопальскім саборы. Аднак-жа ўлада канстантынопальскіх япіскапаў і іхнае пяршынство на Ўсходзе ніколі ня мела ніякага законнага ўмацаваньня, а дзеля гэтага і ўладу іх трэ-

ба лічыць узурпатарскаю, гісторыя-ж усходняе Царквы ёсьць перш за ўсё гісторыяй захопу канстантынопальскімі япіскапамі правоў іншых япіскапаў Усходу. Толькі Рым і Александрыя працівяцца узурпатарскім (захопніцкім) пратэнсіям, якім патронавалі візантыйскія імпэратары. Гэтак зьявілася ўва Ўсходняй Царкве хвароба, званая Візантыйскаю, разьвіцьцё якое павінна было прывясьці, пры спагадных акалічнасьцях, да канчатковага разрыву з Рымам. Гэтага разрыву ня спыніла і тое, што сьв. Іоан Дамаскін прakляў у сваіх трох апалёгіях імпэратарскае папства, гэт. зв. цэзарапапізм. Канстантынопальскія япіскапы ідуць пад ярмо тыраніі сьвецкае ўлады, абы толькі пашырыць сваю ўладу. Вядомы расейскі пісьменьнік Салаўёў, сумаваўшы ад падзелу Цэркваў, цьвердзіць, што раскол Фоцыя зьяўляецца натуральным вынікам усялякага роду царкоўных спрэчак і няладаў, якія разьдзіралі візантыйскую імпэрыю ў працягу пяцёх з палавінаю стагодзьдзяў.

Ўладзімір Салаўёў выдаў у Парыжы кнігу „Россія и Вселенская Церковь", у якой даказвае гэта. Ён закідае Візантыйцам, што яны прынялі хрысьціянскую веру і зрабіліся хрысьціянамі толькі па назове, напаказ; а на законы іх і на социяльныя установы хрысьціянства зусім ня мела ўплыву. Дух паганства праймаў усё іхнае жыцьцё, як асабістае, так і грамадзкае.

Гэты дух паганства выказаўся ў багаслоўскіх спрэчках. Паводле Салаўёва абавязкова павінен быў адбыцца сярод хрысьціянскага грамадзянства саюз боскае асновы з чалавецкаю. Тое, што адбылося ў Хрысьце, — аднаасабовае злучэньне Божаства з чалавецтвам, — тое павінна было адбыцца колектыўна ў хрысьціянскім сьвеце, дзе боская аснова, адабражаная царквою, — сконцэнтрованая ў пэршасьвяшчэнстве, павінна была злучыцца з чалавецкаю асновою, адабражанаю дзяржавай. Але ў гэткім выпадку адносіньне паміж абедзьвюма вымагала-б падпарадкаваньня дзяржавы Царкве, як вышэйшай боскай аснове.

Але паганскі дух не пазволіў зьдзейсьніць гэтую лучнасьць і імкнуўся паставіць дзяржаву ў незалежнасьць ад Царквы. Гэта нам выясьняе, чаму канстантынопальскія імпэратары гэтак часта падтрымлівалі ерэсі, у якіх пад рознымі выглядамі цьвярдзілася заўсёды адно і тое-ж самае, што Ісус Хрыстос ня ёсьць запраўдны Сын Божы адзінаістотны з Айцом. А калі так, — дык просты вывад, што дзяржава не павінна падпарадкавацца Царкве, і што абсолютызм паганскае дзяржавы мог захавацца ў хрысьціянстве ў выглядзе цэзарапапізму або візантынізму.

Гэткім чынам дух хрысьціянства быў выгнаны з социяльнага і палітычнага жыцьця. Зьмяшаньне боскае і чала-

вецкае асновы ў „сьвяшчэннай“ асобе імпэратара было пасьледзтвам ерэтычнае навукі, нібыто Ісус Хрыстос быў нейкаю мяшанаю істотаю, больш як чалавек і менш як Бог.

Праўда, ерэсі падалі пад ударамі праваслаўя, — але гэтае праваслаўе ў істоце было толькі па назове праваслаўем, а на практыцы яно было ерэсьсю, раскладаўшаю візантыйскую імпэрыю.

Можна дадаць, што тое-ж самае адбываецца ўсюды, дзе раскол робіцца пануючым веравызнаньнем.

Раней ці пазьней практыкованая ерэсь, як пануючае веравызнаньне, даводзіць да пагібелі дзяржаву.

Салаўёў правільна дадае: «Справядліва было, каб Візантыйская імпэрыя загінула ад рукі ісламу, гэтага шчырага і пасьлядоўнага візантынізму, чыстага ад усялякага ўнутранага супярэчаньня».

Дух візантыйскі, які заўсёды хацеў здавацца праваслаўным, а ня быў гэткім па істоце, — павінен быў парваць адзінства паміж боскаю асноваю — г. зн. Царквою і чалавецкаю — г. зн. дзяржаваю. Але дзеля таго, каб нарэшце гэтае імкненьне візантынізму завяршылася, патрэбен быў перш за ўсё адпаведны выпадак і пры тым чалавек, які быў-бы настолькі здольным, каб пайсьці на аканчальны шаг раз'адзіненьня. Гэтым чалавекам быў Фоцый. Нельга сказаць пра яго, што ён быў адкрытым ерэтыкам, але і шчырага праваслаўя ён ня трымаўся. Ён належаў да тае партыі, якая вяла глыбока абдуманую палітыку, да партыі, якую можна было-б назваць партыяю праваслаўнаю, антыкаталіцкаю. Яна фактычна, на моцы рутыны, прыхільная была да народных паданьняў, але разам з гэтым мела прэтэнсіі, каб адзінства сусьветнае царквы захаваць гэткім чынам, каб цэнтр гэтага адзінства быў ня ў іншым якім месцы, а ў Канстантынопалі.

Дзеля таго, што партыя гэта была пранята больш паганскім духам, чымся хрысьціянскім, дык яна лічыла за найлепшае быць перш за ўсё грэцкаю, а пасьля хрысьціянскаю, і ні за што не згадзілася-б падпарадкавацца, як яна думала, чужой, і разам з гэтым варожай да грэцкае нацыянальнасьці ўладзе, за якую лічыла ўладу Рымскага Папы.

І гэтак, ідучы за гэтаю хваробаю, называнаю «візантыйскаю», у канцы ўсяго палічыла за лепшае належаць да царквы разлучанае, але апанаванае цэзарапапізмам, чымсь да рымскае злучанае, але нібыто чужое і варожае да іхнай нацыянальнасьці. Дзеля таго, што Фоцый быў чалавекам нядурным і наскрозь пранятым духам вышэйназванае партыі, — дык і ўцялесьніў у сабе гэтую антыкаталіцкую рэакцыю і даў магчымасьць поўнага разьвіцьця расколу.

## Фоцый.

Фоцый паходзіў з багатае дружыны, якая была ў сваяцтве з візантыйскімі імпэратарамі. Нарадзіўся ён каля 815 году. У 855 годзе заняў пасаду пратаспарыя і першага сэкрэтара імпэратара. Трэба прызнаць Фоцыя чалавекам самым вучоным у той час, бо ён патрапіў прысвоіць сабе розныя навукі, усю царкоўную і сьвецкую літэратуру, каналічнае і цывільнае права, гісторыю, а нават і стратэгію, і аставіў вялікі лік пісьмаў. Як крытык і комэнтатар, пакінуў пасьля сябе вялізную „бібліятэку", дзякуючы чаму 280 твораў, разабраных ім, засталося ў ёй вядомымі да нашага часу. Зложыў таксама збор царкоўных „Канонаў".

Уся гэта эрудыцыя сьведчыць аб тым, што Фоцый зграшыў зусім сьвядома.

Жывучы блізка што заўсёды пры імпэратарскім двары, Фоцый быў чалавекам мілым і ўкрадчывым. Ён патрапіў выкарыстаць сваё палажэньне, каб здабыць сабе ня толькі прыхільнасьць імпэратарскае сям'і, але і вялікі ўплыў на ход тагочасных справаў. Галоўнаю рысаю яго характару была лісьлівасьць. Ён апраўдаваў дзеяньні Барды, проці якіх патрыярх Ігнацы прымаў справядлівыя меры, а ў далейшым, калі пазбаўлены ласкі Барда быў забіты, Фоцый пачаў пэцкаць яго памяць. Выгнаны імпэратарам Васілём I з Канстантынопалю, ён лісьлівасьцю ізноў здабыў яго ласку. Ён быў вельмі ганарысты і стараўся за ўсякую цану дабіцца ўлады. Хочучы быць патрыярхам, прабаваў ашукаць Папу Мікалая I. На пэўны час яму ўдалося ўвясьці ў памылку Папу Іоана VIII, каб утрымацца на патрыяршым пасадзе. У канцы ўсяго ён зрабіў змову проці Васіля з мэтаю скінуць яго з імпэратарскага пасаду і самому зняць яго месца. Прычына ўдачы Фоцыя ў сучасных і землякоў далейшых стагодзьдзяў крылася ў тым, што ён з вялікім спрытам зварушваў іх самалюбства проці сваіх ворагаў, атож-самлюючы свае інтарэсы з задаволеньнем нацыянальнай гордасьці. Як ні хацеў Фоцый і якіх ні ўжываў натугаў, а ўсё-ж такі ня мог ён дабіцца ад Папы свайго зацьверджаньня на патрыяршым пасадзе, і гэта галоўная прычына, чаму ён усяляк прабаваў адлучыць усходнюю царкву ад зносін з Рымам ды аканчальна ўмацаваць раскол.

Пагляньма, якія спосабы ўжываў ён, каб гэтага дабіцца.

У 848 г. канстантынопальскім патрыярхам быў Ігнацы, чалавек строгага жыцьця і з сільнаю воляю, якога паважалі, як сьвятога. Ён у дзень Багаяўленьня ў 858 годзе адмовіў у прычасьці Бардзе, які даў вялізную спакусу аддаленьнем законнае жонкі і сужыцьцём з сваёю падчарыцаю. Барда задумаў ад'імсьціць яму і з гэтай мэтаю пераканаў імпэратара Міхала III замкнуць у манастыр матку яго Хвя-

дору, былую імпэратрыцу, якая заўсёды давала настаўленьні свайму сыну. Патрыярх Ігнацы, ад якога вымагалі пастрыгчы яе ў манашкі, адмовіўся зрабіць гэта. Тады Барда пачаў пераконваць імпэратара, што патрыярх знаходзіцца ў змове проці яго, і Міхал скінуў Ігнацыя з пасаду, а затым саслаў яго на востраў Тэрэбінт. Аднак народ шанаваў Ігнацыя і паранейшаму лічыў яго сваім законным патрыярхам, хоць Барда пасадзіў на патрыяршы пасад Фоцыя. Фоцый быў міранінам, але гэта ані ня трывожыла ні яго, ні Барды. У працягу некалькіх дзён ад 20 да 25 сьнежня Фоцый быў пасьвячаны ўва ўсе духоўныя ступені, а на сьвята Хрыстовага Нараджэньня звольнены архірэй Грыгоры Альбэста даў яму сан япіскапа. Фоцый добра разумеў, што гэта было насупроць канонаў і ўсіх законаў, але, ведаючы, што на сьвеце існуе адна толькі ўлада, якая можа зацьвярдзіць яго — гэта ўлада Папы, пастанавіў, чаго-б гэта ні каштавала, дабіцца замацаваньня свайго палажэньня.

Ён трымаў Ігнацыя ў строгай замкнутасьці, каб не дапусьціць зносін з Рымам. У Рым паслана было ўрачыстае пасольства з чатырох япіскапаў і міністра Арэавіра, з багатымі дарамі і пісьмамі імпэратара Міхала III і Фоцыя. Імпэратар у сваім пісьме вінаваціў патрыярха Ігнацыя ў дзяржаўнай здрадзе, самавольным адходзе ад пасаду і непаслухнянасьці канонам Папы Лявона IV і Папы Бэнэдыкта III ў справе аддаленьня ад пасады Грыгора Альбэсты без пазваленьня Папы.

Фоцый ў сваім пісьме прыкідаецца пакорлівым, абвяшчае, што пасьвячаны ў япіскапы проці свае волі. Аб Ігнацыі ўспамінаў толькі няясна, што ён адмовіўся ад патрыяршага пасаду, і, каб здабыць даверра Папы, заяўляе, што, пасьля атрыманьня прыхільнага адказу, зараз-жа зьбярэ сабор дзеля скасаваньня астаткаў іконаборства.

Але Папа Мікалай I, не атрымаўшы ніякіх вестак ад Ігнацыя, устрымаўся ад пастановы і паслаў двох легатаў у Канстантынопаль дзеля расьсьледаваньня справы. Легаты былі арыштованы па нашэпту Фоцыя і ізоляваны ад прыхільнікаў Ігнацыя. У канцы ўсяго легаты далі абыйсьці сябе і здрадзілі папскую волю ды замест таго, каб скончыць з астаткамі іконаборства, яны далі сабору прыняць аб справе Ігнацыя аканчальную пастанову, права, якое Папа пакідаў выняткова сабе.

Ігнацы, зьявіўшыся на саборы і дарэмна прасіўшы падмогі ў легатаў, дамагаўся ад сваіх ворагаў паслухнянасьці канонам і не хацеў адмовіцца ад пасаду. Тады знайшлося 72 фальшывых сьведкі, якія вінавацілі яго ў тым, што ён быў пасьвячаны без канонічных выбараў і гвалтам заняў патрыяршы пасад, а дзеля гэтага, на аснове XXXI-га апостальскага канону ўрачыста пазбавілі яго сану. Але Іг-

нацы адмовіўся падпісаць адрачэньне, тады яго замкнулі і ўзялі на страшэнныя пыткі ды аднойчы вычарпанага да апошняй меры кат схапіў за руку і гвалтам нарысаваў ёю на паперы крыж, над якім Фоцый напісаў, нібыто Ігнацы зракаецца пасаду, на доказ чаго стаўляе гэты крыж. Яму хацелі яшчэ выпараць вочы, але Ігнацы ўцёк і прасьледавальнікі, баючыся народнага бунту, увязьнілі яго у адным манастыры. Усё гэта адбывалася ў 861 годзе.

Тымчасам імпэратар і Фоцый паслалі пасла да Папы, паведамляючы аб засудзе і злажэньні з пасаду Ігнацыя.Папа ня прызнаў самазванная сабору і яго канчатковае пастановы аб справе Ігнацыя, таму што пастанову гэткую ён пакінуў за сабою і паведаміў усіх усходніх патрыярхаў, мітрапалітаў, япіскапаў, імпэратара Міхала III і Фоцыя, што ён не прызнае злажэньня з пасаду Ігнацыя і выбару Фоцыя, выбар і пасьвячэньне якога адбылося з вялікімі нарушэньнямі канонаў.

Якраз прыехаў у Рым і пасланец Ігнацыя з пісьмом, якое пацьвярдзіла падазрэньне Папы Мікалая I ў здрадзе легатаў. У 863 г. Папа сабраў сабор, які абвясьціў пасьвячэньне Фоцыя няважным, а Грыгора, які, ня гледзячы на сваё звальненьне,выпаўніў гэтае некананічнае пасьвячэньне, за сьвятакрадзтва адлучыў ад Царквы. Што датычыць Ігнацыя, дык сабор абвясьціў, што ён ёсьць і павінен заставацца законным патрыярхам.

Пастановы сабору зараз-жа перасланы былі ў Канстантынопаль.

Але Фоцый не хацеў падпарадкавацца пастанове, ён змусіў імпэратара Міхала III паслаць Папе зьняважлівае пісьмо. Папа Мікалай I, хоць і скрыўджаны, але з поўнаю хрысьціянскаю пакораю, адказаў на гэтае пісьмо, тлумачачы, чаму ён ня можа дапусьціць несправядлівага злажэньня з пасаду Ігнацыя. На гэтае пісьмо Папы ня было адказу.

У 866 г. Папа ізноў пасылае пасольства ў Канстантынопаль з пісьмамі: да імпэратара, Фоцыя, Барды, архіяпіскапаў і япіскапаў патрыярхату, Хвядоры, імпэратрыцы Аўдоксіі, патрыярха Ігнацыя і імпэратарскага сэнату.

У гэтых пісьмах відаць імкненьне да замірэньня, хоць папа цьвёрда бароніць патоптаныя правы. Аднак пісьмы гэтыя не дайшлі паводле прызначаньня, таму што пасольства затрымалася ў Баўгарыі разам з сьвяшчэньнікамі, якіх Папа, на просьбу Баўгарскага цара Барыса, прыслаў дзеля навучэньня баўгарскага народу. Пры гэтым Барыс (або Багарыс) хацеў мець незалежную іерархію з патрыярхам, які мог-бы пасьвяціць яго на царства, падобна да таго, як гэта рабілі візантыйскія імпэратары. За гэта Баўгарыя верне Рыму часьць Ільлірыкуму.

Удача Папы ў Баўгарыі, якая адыйшла ад палітычнага і рэлігійнага ўплыву Канстантынопаля, выклікала злосьць у імпэратара Міхала і Фоцыя. Папскім легатам быў забаронены ўезд у імпэрыю, пакуль яны ня прызнаюць Фоцыя і ня прымуць яго ў царкоўныя зносіны. А сам Фоцый зьняў маску, якою дасюль прыкрываўся, і адкрыта выступіў проці Папы, запрашаючы патрыархаў і япіскапаў на сабор дзеля асуду самога Папы. Запрашэньне зрабіў ён доўгім пісьмом, у якім сабраў усе прычэпкі ўсходніх хрысьціян проці лацінян, надаючы гэтым малаважным пярэчаньням вялізнае значэньне ў вачох усходніх хрысьціян. Гэтае пісьмо, хоць і не зьмяшчала ў сабе ніякіх важных довадаў, але таму што трапіла да галоваў ужо ўпярэджаных, зрабіла гэткі моцны ўплыў на іх, што сталася як быццам накідлівую ідэяю (idee fixe) у ўсходнім расколе. Тут Фоцый патрапіў спрытна раздразьніць самалюбства грэкаў, выхваляючы іх вучонасьць, праваслаўе і вернасьць апостальскім паданьням ды пры гэтым ужыў усіх аратарскіх спосабаў, каб выклікаць ненавісьць да Рыму, г. зн. да папы і лацінян. Не называючы нічыйго імя, Фоцый абкідае брыдкімі цынічнымі назовамі сваіх праціўнікаў, не шкадуючы гэтых словаў.

З усяго гэтага набору хітрых словаў можна даведацца, колькі злое волі бяз ніякае падставы было ў гэтым першым кроку аканчальнага разрыву. Сабор адбыўся ў 867 годзе пад старшынством імпэратара Міхала. Што пастанавіў гэты сабор было-б невядома, таму што акты гэтага сабору ў чарговым годзе былі зьніштожаны пад прэтэкстам дапушчаных у іх скажэньняў і ўставак, калі-б ня „Жыцьцё сьв. Ігнацыя“ Мікіты Пафлягонскага ды „Жыцьцё сьв. Папы Мікалая“ Анастасія Бібліятэкара, у якіх шмат успамінаецца пра тое, што рабілася і пастаноўлена было на гэтым саборы. Фоцый дамагаўся на саборы злажэньня з пасаду Папы Мікалая I і адлучэньня ад Царквы ўсіх, хто знаходзіся-б з ім у зносінах.

Па маладушнасьці толькі 21 япіскап падпісалі гэты акт сабору. Бачачы гэта, Фоцый самавольна паставіў на гэтым дакуманце каля 1000 падробленых подпісаў. Здавалася, што, маючы матар'яльную сілу на сваім баку, ён мог трыумфаваць ад перамогі над Папаю, як вярхоўны першасьвяшчэньнік Царквы. Але хутка надыйшла кара Божая. Праз колькі дзён цэзар Васіль Македонянін, замяніўшы калісь Барду, ухіліў гвалтоўнаю сьмерцю імпэратара Міхала П'яніцу і абвясьціў сябе імпэратарам.

Узышоўшы на пасад ён зараз-жа скінуў і Фоцыя, ссылаючы яго ў Скэпійскі манастыр.

На месца Фоцыя паклікаў Васіль законнага патрыарха Ігнацыя і выслаў паслоў у Рым з замерам зрабіць перамір'е Канстантынопалю з сьвятым Пасадам і з прапазыцыяй скліканьня сабору. Пасланцы Васіля ўжо не засталі жывым па-

пы Мікалая. Але яго наступнік Адрыян II адправіў сваіх легатаў і пад старшынством іх у прысутнасьці імпэратара Васіля і патрыярха Ігнацыя сабраўся восьмы сусьветны сабор, на якім Фоцыя асудзілі і адлучылі ад Царквы, абвясьцілі няважнымі ўсе зробленыя ім пасьвячэньні і скасавалі ўсе яго распараджэньні.

Упадак Фоцыя адбыўся ў той самы мамэнт, калі яму здавалася, што ён дасягнуў свае мэты. Яму здавалася, што ўмешваньнем сьвецкае ўлады дасягне зьдзейсьненьня свайго ўладалюбнага лятуценьня, але тая самая ўлада сваім умешваньнем была прычынаю яго ўпадку. Але хоць ён і быў сасланы ў манастыр, аднак ня падаў духам, а пісьмамі падбадзёрваў сваіх прыхільнікаў, ведаючы, што зьмена ў шчасьці можа лёгка надыйсьці. Ён хутка выкарыстаў непаразуменьні, якія зьявіліся паміж імпэратарам Васілём і Рымскаю Царквою ў справе назначэньня асобнага патрыярха для Баўгарыі.

Не пакідаючы зносіцца з сваімі прыяцялямі, ён задумаў змову з дыяканам Феафанам, які служыў пры Імпэратарскай Бібліятэцы, падрабіў разам з ім родаслоўную табліцу імпэратара, выводзячы яго род ад даўных часоў і вяльможных асобаў, ссылаючыся на нейкае прароцтва ў кнігах Старога Закону. Гэта, ведама-ж, спадабалася імпэратару, які, бачачы, што Фоцыевы сваякі, хоць і адлучаныя ад Царквы, не паддаліся свайму лёсу, вярнуў Фоцыя ў Канстантынопаль, каб супакоіць гэтым галовы яго прыхільнікаў і нават задумаў зрабіць яго наступнікам Ігнацыя. Фоцый пастараўся быць у добрых адносінах з пастарэлым патрыярхам і калі той памёр, дык Фоцый як-бы натуральна заняў патрыаршы пасад. Каб прыхіліць да сябе папу Іоана VIII, ён пісаў да яго асабіста і змушаў пісаць іншых, як напр. імпэратара, усходніх патрыярхаў ды іншыя ўплывовыя асобы, якія хвалілі яго перад папаю.

Ён сам выстаўляў сябе добрым пастырам, заўсёды выказваўся з вялікім паважаньнем аб сваім папярэдніку і патрапіў гэтак падзейнічаць на папу Іоана VIII, што той нарэшце паслаў свайго легата з пісьмамі і актам, званым „Commonitorium“, у якім былі варункі згоды прызнаць Фоцыя Канстантынопальскім патрыярхам. Фоцый без найменшага сораму фальшыва пераклаў гэты акт на грэцкую мову, а ў канцы ён дадаў да перакладу тое, чаго там зусім ня было, а ласьне, што пастановы сабораў, скліканых дзеля яго асуду, папа адмяняе і прызнае няважнымі. Як відаць рымскі легат ня цьвёрда знаў грэцкую мову, калі згадзіўся на гэткі фальшывы пераклад. Калі папскія пісьмы былі агалошаны ў гэткім перакладзе на скліканым саборы, дык запраўдныя каталікі вельмі зьдзівіліся.

Рымскія легаты, уявіўшы, што ўсё ў парадку, калі на саборы чуваць клічы на чэсьць папы Іоана, далі на ўсё сваю згоду і нават прызналі Фоцыя Вышэйшым Першасьвяшчэньнікам, маючым духоўную вярхоўнасьць ува ўсім сьвеце.

Вецама-ж папа Іоан VIII ня прызнаў пастановы сваіх легатаў, адкінуў усе пастановы сабору і кінуў на Фоцыя пракляцьце. Папа Марый І і Стафан VI ўзнавілі акт адлучэньня Фоцыя ад Царквы. Але Фоцый гэтым ня трывожыўся і ўсюды пашыраў на Ўсходзе пастановы сабору з падробленымі папскімі пісьмамі. Пры гэткіх варунках усходнім хрысьціянам немагчыма было даведацца, дзе праўда. Умацаваўшыся на патрыяршым пасадзе, Фоцый задумаў захапіць у свае рукі і сьвецкую ўладу. Хутка зручнае здарэньне памагло яму ў гэтай справе. Імпэратар Васіль, пасьля сьмерці свайго сына Канстантына, быў разьбіты паралічом і Фоцый не замарудзіў захапіць уладу ў свае рукі і нават задумаў абвясьціць сябе імпэратарам, але гэта яму не ўдалося, таму што Васіль І хутка памёр, а насьледнік яго Лявон VI Мудры або Філёзоф, зразумеўшы замеры Фоцыя, зараз-жа злажыў яго з пасаду і саслаў у манастыр, дзе Фоцый у 897 ці ў 898 г. памёр.

Раскол аднак ня скончыўся з сьмерцю Фоцыя. Ён патрапіў падзейнічаць на верных, загубляючы іх прывычкі да звычаяў, якія яны лічылі старадаўнымі, ўнасьледаванымі ад першых вякоў хрысьціянства. Другая прычына — гэта яго ўласнае самалюбства, якое ён патрапіў злучыць з нацыянальным самалюбствам, зьяўляючыся выразьнікам нацыянальнае ідэі, меўшае вялізарны пасьпех. Ён быў уасобленьнем духу Візантыі, які крыўся ў тым, што імпэратары хацелі бескантрольна ўмешвацца ў справы царквы, імкнуліся да царкоўнае аўтаноміі, а асабліва Канстантынопальскія патрыярхі ненавідзелі ўсё, што ня было грэцкім, да Рыму адносіліся падазронна асабліва з часу ўзнаўленьня Папаю Лявонам III Заходняе Рымскае Царквы. Да гэтага далучаецца яшчэ непаразуменьне ў баўгарскім пытаньні, аб чым было вышэй. Гэта былі запраўдныя прычыны расколу, які можна было выкараніць пры варунку іншага, чымсь візантыйскае, тлумачэньня аб паходжаньні царкоўнае ўлады. Але таму што і пасьля сьмерці Фоцыя гэтыя прычыны былі тыя самыя, дык і натуральна, што пры гэткіх варунках раскол павінен быў адрадзіцца пры першым лепшым выпадку.

Разглядзеўшы гісторыю расколу і дзеяльнасьць Фоцыя, дзіўнаю здаецца тая вострасьць яго пасьлядоўнікаў, з якою яны цьвердзяць, што захоўваюць нязкажаную веру Хрыстову і называюць сябе „праваслаўнымі“. Гэта-ж яны захоўваюць усугіраваныя Фоцыем ды яго наступнікамі разуменьні, якія гэтак ясна пярэчаць Хрыстовай навуцы аб Царкве. Іх

можна было-б назваць фоцыйцамі, бо ён іхны настаўнік, а ня Хрыстос цераз сваіх наступнікаў, гэтак сама, як лютэране, кальвіністыя называюцца імёнамі сваіх закладчыкаў.

Трудна таксама зразумець, як гэта яны не адчуваюць гэтае ганьбы мецьтлумачом веры і ахоўнікам яе чысьціні гэткага чалавека, як Фоцый, адзіным жаданьнем якога было задаволіць сваю гордасьць, для якога ня было нічога сьвятога, чаго ён не патаптаў-бы, калі яно перашкаджала яго асабістым імкненьням. Наадварот, паважаюць яго, як сьвятога. Дык-жа гэткага роду спосабы, за якія ён хапаўся, каб зьдзейсьніць свае жаданьні, нават і ў паганскім разуменьні плямілі сумленьне чалавека, а Фоцый, „ахоўваўшы чысьціню веры Хрыстовай", ужываў ману, хітрасьць. гвалт, фальшаваньне дакумантаў ды подпісаў, колькі яму падабалася. І толькі, дзякуючы выдатным разумовым здольнасьцям, патрапіў утаіць гэта ад вачэй шмат каго, жыўшага ў той час.

Але яшчэ трудней вытлумачыць тое, што разам з Фоцыем паважаюць «праваслаўныя» і сьв. Ігнацыя, якога Фоцый гэтак жорстка прасьледаваў.

Бо-ж, калі Ігнацы служыў праўдзе, дык Фоцый ня можа быць сьвятым, прасьледуючы яго, а калі Фоцый трымаўся праўды, дык як-жа паважаць Ігнацыя, які праз усё жыцьцё асуджваў паступкі Фоцыя і яго адносіны да царкоўных справаў? Аднак яны моляцца і таму і таму.

Гэтую бязглуздасьць вытлумачыць можам толькі цемнатою народу, а асабліва сьвяшчэньнікаў і тым, што, згубіўшы адзінства з Праўдзіваю Царквою, яны пазбавіліся шчодрасьці сьвятла Божага.

**(Канец будзе)** („Христіанинъ").

---



# Пачаеўская Дэмонстрацыя.

За апошнія часы многа гаварылася і пісалася аб дэмонстрацыі украінцаў у Пачаеве 10 верасьня г. г.

10 верасьня ў Пачаеўскім праваслаўным манастыры прыпадае мясцовае сьвята. На гэты дзень сабралася каля 20 тысяч народу, многа схізматыцкага духавенства і ўсе япіскапы. Прыбыў таксама схізматыцкі Мітрапаліт Дзіанісі з Варшавы, каторага 20-гадовы юбілей япіскапства меў сьвяткавацца вельмі ўрачыста ў Пачаеве.

Украінцы варожа адносяцца да Мітрапаліта Дзіанісія, дык вось гэту варожасьць пастанавілі выявіць 10 верасьня ў Пачаеве. У часе працэсіі разьвярнулі свае украінскія сьцягі ды плякаты з надпісамі проці Мітрапаліта і яго русыфікатарскае палітыкі, пры гэтым пачуліся крыкі: „Проч з русыфікацыяй у Праваслаўнай Царкве,“ „проч з русыфікатарскаю ды маскоўскаю іерархіяю,“ „проч з Маскоўскімі Кансысторыямі.“

Дэмонстрацыя была арганізована украінскімі паслам і на Сойм. Пасьля працэсіі быў на гарадзкім пляцы арганізованы вялізарны мітынг, на якім паводле П.А.Т. было 12 тысяч чалавек, прамаўлялі там паслы: Скрыпнік, Бура, Тэлежынскі і сэнатар Главацкі. Пасьля прамоваў былі прыняты рэзалюцыі проціў русыфікацыі ў царкве, якія былі ўручаны Мітрапаліту.

Даўно ўжо вядзецца барацьба украінцаў проці маскоўшчыны, а пачаеўская дэмонстрацыя паказала, што адбыўся разьдзел паміж праваслаўнай іерархіяй і украінскім народам.

У часе такіх сумных падзеяў вочы ўжо многіх нязлучаных праваслаўных украінцаў зьвяртаюцца ў бок сусьветнае (каталіцкае) царквы, якая ёсьць ані польская, ані руская, але для ўсіх народаў аднолькава любячая маці.

Ужо шмат вёсак выявіла сваё пажаданьне злучыцца з каталіцкай царквою, прыняць Сьв. Унію. Падзеі апошніх часоў і далейшыя мо‘ давядуць увесь украінскі народ да неабходнасьці прызнаньня вярхоўнасьці Апостальскага Пасаду ў Рыме. Сьв. Унія з Рымам — найлепшы выхад з сумнага палажэньня украінцаў на Валыні.

*Злучэнец.*



# Бібліяграфія.

*Dr. Adolf Ziegler:* Die russische Gottlosenbewegung. (Расейскі бязбожніцкі рух). München 1932 Verlag Ios. Kösel & Friedrich Pustet.

У палавіне 1932 г. была выдана першая кніга, грунтоўна пасьвячаная бязбожніцкаму руху ў Расеі. Аўтор яе зусім не чапае ні палітычных, ні эканамічных пытаньняў, ні камунізму, ні савецкае сыстэмы, а проста паддае толькі крытыцы антырэлігійнасьць бязбожнікаў. Форма выкладу — аб'ектыўная і строга навуковая. Аўтор карыстаецца фікцыяй, як быццам мае справу з праціўнікам чэсным і годным, якому хоча даказаць запраўдны твар бязбожжа і садраць з яго добрыя на выгляд маскі, якімі яно затуляецца. Гісторыя бязбожніцкага руху няпоўная, таму што мы яшчэ ня ведаем, у што яно канчаткова выльецца. Бязбожнікі замерваюцца выдаць афіцыяльны збор артыкулаў аб сваёй пятнаццацьгадовай „працы". П. Цыглер прапануе ім свой твор, як дапаўненьне іхнага выданьня. Аўтор моцна пратэстуе проці закіду ў індыфэрэнтызме, які закід можа быць зроблены на той падставе, што бязбожжа ваюе на некалькіх фронтах і дзеля гэтага лёгка можа быць западозраным у прызнаньні роўнацэннасьці ўсіх веравызнаньняў, але ад гэтага ён ухіляецца, прапануючы толькі гісторыю барацьбы бязбожжа з усімі рэлігіямі, не паддаючы найменшай нават крытыцы якую-нібудзь з іх. Як довады, ён ужывае ў значнай колькасьці цытаты самых бязбожнікаў. Галоўнаю крыніцаю для яго зьяўляецца расейская загранічная і савецкая літэратура. А з іншых літэратураў аўтор скарыстаўся толькі вельмі нязначнаю колькасьцяй найважнейшых твораў, якія датычаць яго тэмы. Для тых, хто хоча спэцыяльна пазнаёміцца з пытаньнямі, якія адносяцца да бязбожніцкага руху ў Савецкай Расеі, паданы ім сьпісак спэцыяльнае літэратуры. Дзеля, таго, што бязбожнікі трымаюцца прынцыпу: **10 проц. тэорыі, а 90 проц. практыкі** — аўтор зьмяшчае ілюстрацыі і ўзоры бязбожнае прэсы, паміж якімі галоўнае месца займаюць карыкатуры. Не абмінуў ён таксама і самых тэмаў рэфэратаў дзеля барацьбы з бязбожніцтвам.

Замерваючыся ў будучыні шырэй пазнаёміць паважаных чытачоў нашага журналу з кнігаю п. Цыглера, мы ў гэтым кароткім нарысе заяўляем, што зусім згаджаемся з пунктам гледжаньня аўтора і, апрача агіды да бязбожнікаў, выказваем нашае спачуваньне тым, хто змушаны існаваць у гэтай страшэннай атмосфэры. Радыкальная нэгацыя

і зьверскі гвалт, як зброя бязбожніцтва, руйнуе і шкодзіць, але ня можа адабраць ад сваіх ахвяраў патрэбы позытыўнага зьместу (для душы). Гэтая патрэба цяпер у масах паявлічылася, а бязбожнікі, па прычыне свайго матэрыялістычнага кірунку, апрача дзікае пустаты і зьверскага гвалту, нічога іншага запрапанаваць ня могуць. Дзеля барацьбы з бязбожжам радзім усім, хто можа, пазнаёміцца з гэтаю кніжкаю.

---

## Брату Чэху.

*Ня думай, Браце Чэх,*
*Што Беларус выродны,*
*Перад Табой на сьмех,*
*Сьпяваў свой гымн народны.*
*Ня думай, што забыўся*
*Тваіх сардэчных слоў,*
*Калі ён аддаліўся,*
*На іншы шлях пайшоў.*
*Ня думай, што забыўся*
*Ён Чэскага паэты,*
*Калі ад Вас вучыўся*
*Пісаць сонэты.*
*Хоць можа ў гневе Ты,*
*Што я ня даў адвету*
*На ўсе Твае лісты,*
*Мой мілы вершаклету.*
*Але павер мне, Брат,*
*Такі характар маю:*
*Пісаць к Таму ня рад,*
*Каго ў душы кахаю.*

*Уладзімер Берняковіч.*



# Хроніка.

## У ПОЛЬШЧЫ.

1. **Выезд каталіцкіх япіскапаў Польшчы да Рыму.** Апошнім часам выехалі ўсе епархіяльныя япіскапы Польшчы да Рыму для справаздачы аб кіраўніцтве епархіямі ды дзеля юбілейнага году. Выехалі таксама япіскапы, у епархіях каторых пашыраецца Сьвятая Унія паміж праваслаўнымі. Унійная справа напэўна будзе ў Рыме парушана і, можна спадзявацца, не без карысьці для самой справы.

2. **Ковэль.** У кляштары а. а. Рэдэмпторыстаў у Ковэлі адбыліся ад 29.VIII—2.IX с. г. рэколекцыі для сьвяшчэньнікаў усходня-славянскага абраду. Навукі гаварыў а. Бахталоўскі, а практычныя інструкцыі даваў сам Уладыка Мікала й (Чарнэцкі).

3. **Тотовічы,** Сарненскага пав. Часьць жыхароў вёскі Тотовічы прылучылася да Сьв. Уніі. Арганізаваньне новага уніяцкага прыходу паручана а. К. Крэту з Антонаўкі.

## ЗА ГРАНІЦАЙ.

1. **Яраслаўль** (Расея). З яраслаўскага лагеру бальшавікі выслалі на Салоўкі 68 сьвяшчэньнікаў. Гэтыя ахвяры бальшавіцкае „свабоды“ хіба не перанясуць доўга арыштанскае долі дзеля заразьлівае хваробы тыфусу, які цяпер там пануе. (КАП).

2. **Масква.** Як ведама, бальшавікі скасавалі сьвяткаваньне нядзелі. Каб даць магчымасьць каталіком лацінскага абраду быць прысутнымі на Сьв. Літургіі, сьвяшчэньнік адпраўляе яе ў нядзелю 2 разы, рана і ўвечары а 7 гадзіне. Апостальскі Пасад на гэта даў дазвол. Сьвяшчэньнік і тыя, што маюць прыняць Сьвятое Прычасьце ўвечары, могуць есьці да 1 гадзіны дня. (КАП).

3. **Ватыкан. (КАП). Колькасьць каталікоў.** У „Папскім Гадавіку“ зьмешчаны ведамасьці аб колькасьці каталікоў. Паводле гэтых даных, у Эўропе налічваецца 209 мільёнаў каталікоў, у Амэрыцы — 109 мільёнаў, у Азіі — 16 з палавінаю мільёнаў, у Афрыцы — 5 з палавінаю мільёнаў і ў Акеаніі 1 з палавінаю мільён, а разам 341 з палавінаю мільёнаў.



# Календар

на м—ц Лістапад 1933 г.

Стары стыль | Новы стыль

| Кал. нядз. і сьв. гр.-слав. абр. | | | Kal. niadz. i świat rymska-kat. a | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | А | Кузьмы і Дзям'яна | 14 | A | Jozafata. Jukunda |
| 2 | С | Акіндына | 15 | S | Gertrudy. Leapolda |
| 3 | Ч | Язэпа | 16 | Č | M. B. Wostr. |
| 4 | П | Іоанікія | 17 | P | Salamei. Ryhora |
| 5 | С | Галакціона | 18 | S | Ramana. Odona |
| 6 | Н | **Паўла яп.** | 19 | N | **Alžbiety** |
| 7 | П | Лазара | 20 | P | Feliksa W. |
| 8 | А | Сабор Міх. Арх. | 21 | A | Alberta |
| 9 | С | Анісіфора | 22 | S | Cecylii |
| 10 | Ч | Эраста | 23 | Č | Klemansa |
| 11 | П | Міны | 24 | P | Jana ad Kr. |
| 12 | С | Івана Міл. | 25 | S | Kaciaryny |
| 13 | Н | **Іоана Залатавуснага.** | 26 | N | **Konrada. Sylwest.** |
| 14 | П | Піліпа ап. | 27 | P | Wirgilija. Walerjana |
| 15 | А | Гурыя | 28 | A | Manświeta. Rufa |
| 16 | С | Матэуша | 29 | S | Saturnina. Filimona |
| 17 | Ч | Грыгора | 30 | Č | Andreja. Justyny |
| | | | | | ŚNIEŽAŃ. |
| 18 | П | Платона | 1 | P | Eligija, Natali |
| 19 | С | Аўдзея | 2 | S | Bibiny. |
| 20 | Н | **Прокла** | 3 | N | **Franciška 1 Adw.** |
| 21 | П | **Ув. у храм. Пр. Б.** | 4 | P | Barbary |
| 22 | А | Філімона | 5 | A | Anastazii. Niceta |
| 23 | С | Амфілакія | 6 | S | Mikałaja |
| 24 | Ч | Кацярыны | 7 | Č | Ambrožaha |
| 25 | П | Клімента | 8 | P | **Niep. Pač. N.D.M.** |
| 26 | С | Алімпія | 9 | S | Leokadyi. Waleryi |
| 27 | Н | **Якуба** | 10 | N | **N. Dz. M. Loret.** |
| 28 | П | Сьцяпана | 11 | P | Damazaha |
| 29 | А | Парамона | 12 | A | Alaksandra |
| 30 | С | Андрэя ап. | 13 | S | Lucyi |

Рэдактар а. А. НЕМАНЦЭВІЧ.